Свабода — галоўная маральная і фізычная каштоўнасьць, якая дадзеная кожнай жывой істоце ад нараджэньня.
*Васіль Быкаў*

# ЗА развіццё МАЛАДЭЧНА



№2, красавік 2006

рэалістычнае выданне для тых, хто не губляе аптымізму

## *Паважаныя маладэчанцы!*

Перад сабою вы трымаеце другі нумар незалежнай, праўдзівай і даволі своеасаблівай газеты «За развіццё Маладэчна». Першы пілотны ды рарытэтны нумар атрымала невялікая колькасць насельніцтва Маладэчна. Гэтае выданне толькі пачынае сваё існаванне, і спадзяемся, што яно вам спадабаецца.

Усе вы ведаеце, што ў нашым горадзе існуе дзяржаўная «Маладзечанская газета», якая павінна адлюстроўваць падзеі тутэйшага жыцця. Але насамрэч нам, паважаныя маладачанцы, у XXI стагоддзі сорамна мець *такое выданне* ў якасці адзінай галоўнай мясцовай газеты. Таму мы – такія ж жыхары нашага любімага горада, як і кожны з вас – вырашылі стварыць альтэрнатыўнае выданне, якое будзе несці ў ваш дом толькі Праўду. Гэтым самым выконваецца адзін з галоўных дэмакратычных прынцыпаў – плюралізм думак.

Што тычыцца нашых палітычных поглядаў, то мы не агітуем за нейкую партыю ці структуру. Дарэчы, палітыка – не галоўны напрамак нашай дзейнасці. Палітыка трапляе на старонкі нашай газеты ўжо толькі па той прычыне, што палітыка пранізвае ўсе сферы нашага жыцця, і мы мусім у ёй разбірацца. «За развіццё Маладэчна» – сацыяльнае выданне, якое ствараецца простымі людзьмі і прызначана для простых людзей.

Мовамі нашага выдання з'яўляюцца руская і беларуская (тарашкевіца ці наркамаўка). Фармат і перыядычнасць выдання будуць разглядацца рэдакцыяй газеты.

Мы заклікаем усіх, каму цікавы гэты праект, прыняць удзел у стварэнні нашай агульнай газеты, у яе распаўсюдзе і рэкламе. Для гэтага напішыце ліст на наш электронны адрас zarm@tut.by. Калі вы «не ў ладах» з кампьютарам, звярніцеся да сваіх сяброў і знаёмых, якія могуць дапамагчы ў гэтай справе.

Артыкулы могуць быць напісаны ў самых розных стылях, тэматыка можа быць самай рознай. Галоўнае, каб закраналіся праблемы горада Маладэчна і яго жыхароў.

Заўважым, што ваш удзел у нашай агульнай працы можа быць і ананімны. Калі вы па нейкіх прычынах не хочаце «раскрываць сябе», але вельмі жадаеце стаць удзельнікам агульнай справы «За развіццё Маладэчна», калі ласка! Будзем мець кантакты пры дапамозе інтэрнэта ці тэлефона (6476157).

Асабліва звяртаемся да людзей (па большай частцы, прадпрымальнікаў), якія могуць дапамагчы матэрыяльна падтрымаць выхад газеты.

Калі Вам спадабалася гэтае выданне, і Вы б хацелі, каб яго чытала як мага большая колькасць маладэчанцаў, калі ласка, пазнаёмце з газетай Вашых родных, сяброў, калегаў.

Мы толькі пачынаем свой шлях і разлічваем на вашу дапамогу. Давайце пакажам, што нас – неабыякавых да лёсу свайго роднага горада – шмат!

РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ «За развіццё Маладэчна»

***Са святам, шаноўныя землякі!***

***Рэдакцыя газеты "За развіццё Маладэчна" віншуе ўсіх, хто адзначае свята Святога Вялікдня! Мы жадаем дабрыні, радасці, міру сем'ям усіх беларусаў, многія з якіх будуць у гэтыя дні маліцца за незалежную, сапраўды вольную Беларусь.***

***Свята Святога Вялікдня надыходзіць увесну, калі ўсё вакол абуджаецца ад сну, і нашы сэрцы поўняцца асаблівай радасцю і надзеяй. І таму асабліва хочацца верыць, што дзякуючы нашым агульным высілкам мы набліжаем час, калі няпраўда, нянавісць і гвалт перастануць быць дзяржаўнай палітыкай, а мы, грамадзяне сваёй краіны, зможам выбіраць уладу, кіруючыся законам, сумленнем і Біблейскімі прынцыпамі.***

***Рэдакцыя газеты "За развіццё Маладэчна"***







**актуальна**

## У Маладэчна не будзе гарачай вады

***Сувязь паміж выбарамі і адключэннем гарачай вады.***

Вясна 2005 г. Маладэчна. Гарадскія шматпавярховікі. Як і заўсёды, праходзіць планавае адключэнне гарачай вады. Маладэчанцы рыхтуюцца здабываць яе ў XXI стагоддзі пры дапамозе газавай пліты на працягу 3-4 тыдняў. Загад зверху. Цуд. Усе патрэбныя прафілактычныя работы зроблены ВЕЛЬМІ хутка. За тыдзень. З крана зноў пацякла гарачая вада. Некаторыя скажуць: "Праз год выбары Прэзідэнта. Усё зразумела."

Вясна 2006. Маладэчна. Выбары Прэзідэнта прайшлі. Планавае адключэнне гарачай вады не за гарамі. Супрацоўнікі ЖКГ горада неафіцыйна прызнаюць, што зацягванне прафілактычных работ на самой справе выклікана эканоміяй сродкаў.

Друкуючы гэты артыкул, мы хочам нагадаць маладэчанцам пра недалёкае мінулае. Вельмі хацелася б, каб у грамадстве ўзнікла палеміка вакол гэтай праблемы. Спадзяемся, што некаторыя маладэчанцы занепакояць мясцовыя ўлады з патрабаваннем яе вырашэння.

Мы ж звяртаемся да райвыканкама. Калі магчыма, скараціце тэрмін "прафілактыкі" да мінімума. Патлумачце, калі ласка, свой погляд на вышэйзгаданыя рэаліі. Ці ёсць тут "палітыка"? Ці не займаемся мы папулізмам? Якія ёсць варыянты вырашэння праблемы? Ці гэта не праблема?

Адказы на гэтыя пытанні можна "ціхенька" надрукаваць у "Маладзечанскай газеце". На старонках нашага выдання для такой справы мы таксама заўсёды знойдзем месца. Ці будзе "цуд" у гэтым годзе?

Аддзел ЖКГ.

## Хачу жыць у Маладэчна XXI стагоддзя

***Невялікая рэакцыя на "пасяўную-2006" Маладэчанскага раёна***

З болем чытаю кожны свежы нумар "Маладзечанскай газеты". Вельмі занепакоены тым, што праца сельскай гаспадаркі раёна ў "гарачыя перыяды" падобна на ваенныя дзеянні. Чаму ў большасці еўрапейскіх краінаў пасадка альбо збор ураджая не ёсць пытаннем "Быць альбо не быць"? На Маладэчаншчыне зусім кепскія глебы? Мы не можам працаваць па сучасных тэхналогіях? У нас няма нармальных працаўнікоў? Ці ўсё ж такі патрэбна нармальная рэформа сельскай гаспадаркі?

А. САСНОЎ

**асабістае меркаванне**

## *Чаму я еду на "Чарнобыльскі шлях"*

Я нарадзіўся і жыву большую частку свайго жыцця ў Маладэчна. У Чарнобыльскай зоне я быў толькі адзін дзень. Але на жаль нельга сказаць, што для мяне асабіста гэта далёкая праблема. Чарнобыль увайшоў і ў маю сям'ю. Як, тлумачыць не буду. Думаю, што гэтае пытанне блізкае кожнай маладэчанскай сям'і. Іншая справа, як гэта хто разумее і для сябе тлумачыць.

**26 красавіка 2006 года я буду ў Мінску, а 18:00 прыйду на Кастрычніцкую плошчу.** Зраблю я гэта па розных прычынах.

Па-першае, мне важна паглядзець, хто не спужаўся, колькі такіх, як я. Па БТ шмат сказалі на гэты конт. Падзеі 19-25 сакавіка (ды і далейшыя) паказалі, на што здольныя асобныя генералы-"главнокомандующие", калі ёсць небяспека згубіць абсалютную ўладу.

Па-другое, я даволі незалежны ад уладаў чалавек і баяцца, акрамя фізічных метадаў, мне няма чаго. Толькі ёсць трохмесячнае дзіця і каханая жонка, сваякі. Дык я ж хачу, каб яны жылі пры нармальнай уладзе. І не баяліся піць звычайнае малако ці ваду з-пад крана. Сувязь паміж гэтымі рэчамі ёсць. Але ўсё гэта – ужо трэцяя прычына.

Па-чацвертае, я спадзяюся, што са мной паедзе частка маіх знаёмых. І яны самі пабачаць, як усё было. І распавядуць сваім знаёмым, што яны бачылі ўласнымі вачыма.

Некаторыя кажуць, што нельга палітызаваць гэту праблему. Але прабачце: дзякуючы палітызацыі, дзякуючы тым спецыялістам, журналістам і палітыкам, якія неслі праўду аб Чарнобыльскай трагедыі да простага народа, было выратавана шмат чалавечых лёсаў. Зараз, праз 20 год пасля аварыі, ёсць вялікія праблемы са свабодай слова і доступам да аб'ектыўнай інфармацыі. Уладам выгадна, каб усё было прыгожа і "пад кантролем".

Я не кажу, што ўлады нічога не робяць для вырашэння праблемы. Але гэтага недастаткова. Пры тым, што робяць яны гэта за нашыя з вамі сродкі, атрымоўваючы за гэтыя ж самыя сродкі заробкі. Праблема яшчэ ў тым, хто іх кантралюе. Сродкі масавай інфармацыі ў масе сваёй засцянутыя ў кут, сапраўды масавыя толькі дзяржаўныя клоны. "Абраны" парламент кантралюецца адным чалавекам. Нязнішчаныя грамадскія арганізацыі, на жаль, вялікага ўплыву не маюць. Адзіны просты спосаб дапамагчы – прыехаць 26 красавіка на Кастрычніцкую плошчу.

Аб рэпрэсіях. Я быў амаль на ўсіх санкцыянаваных і несанкцыянаваных палітычных мерапрыемствах, пачынаючы з 1998 г. На мой погляд, калі нехта не лезе ў гушчар падзеяў, а, напрыклад, стаіць на іншым баку вуліцы, верагоднасць праблемаў з боку ўладаў для яго – 0,1%. Важна, каб Вы бачылі ўсё сваімі вачыма. І самі будзеце ведаць, што Вам рабіць далей.

Ян ЛАГВІНОВІЧ

*У гэтым нумары мы ізноў вяртаемся да 19-25 сакавіка, бо падзеі таго тыдня ўскалыхнулі не толькі беларускае грамадства, але і ўвесь цывілізаваны свет. Мы прапануем вашай ўвазе артыкул нашага земляка, які на ўласныя вочы бачыў, як адбываліся тыя падзеі першых дзён на цэнтральнай плошчы г.Мінска, быў сведкам тых гістарычных дзён.*

## «На Плошчу нас паклікалі годнасць і сумленне...»

На плошчу нас пазвалі годнасць і сумленне... Гучыць нейк пафасна і паэтычна. А на самой справе менавіта гэтыя дзве акалічнасці, а не Мілінкевіч, Казулін ці хтосьці іншы, прымусілі нас прыйсці 19 і 20 сакавіка на Кастрычніцкую плошчу, якая потым мітынгоўцамі будзе перайменавана ў Плошчу імя Кастуся Каліноўскага. Мы – гэта я і мой брат, маладачанцы.

На працягу пяці дзён (ды нават доўга пасля) так званае беларускае тэлебачанне паказвала дзесяткі рэпартажаў пра падзеі на Кастрычніцкай Плошчы. І мільёны беларусаў воляй-няволяй паглядзелі хаця б адзін з гэтых "твораў мастацтва" БТ-АНТшных журналістаў. Там было ўсё: і п'яныя адмарозкі, і ўкураныя непаўналетнія, і прастытуцыя (гэта пры -13 градусаў па Цэльсію), і парнаграфія, і педыкулёз... Божа, чаго там толькі не было?!! Усе гэтыя рэпартажы цяжка нават назваць няпраўдай: на самой справе гэта брудная хлусня. І я лічу сваім грамадзянскім абавязкам расказаць суайчыннікам як усё было насамрэч. Маю на гэта поўнае права, бо, ў адрозненні ад ілжывых прадстаўнікоў беларускіх тэлеканалаў, я асабіста знаходзіўся ў самым эпіцэнтры падзей. Праўда надоўга...

*Працяг на стар.2*

***Гэта гісторыя адна з сотняў вельмі падобных да яе. Той, хто прайшоў праз выпрабаванне Плошчай, ніколі не забудзе тых гераічных і жудасных дзён. На Плошчу прыехалі людзі з розных куткоў Беларусі, каб адстаяць Свабоду, Праўду і Справядлівасць. Сярод тысяч паўстаўшых з кален беларусаў былі і маладачанцы. Вось адна з гісторый нашых землякоў.***

# «На Плошчу нас паклікалі годнасць і сумленне...»

Гісторыя паказвае, што масава на вуліцу людзі могуць выйсці ў двух выпадках: першы, калі большасць насельніцтва жыве ў беднасці і людзям не хапае грошай на кавалак хлеба; другі, калі людзі сытыя, але падманутыя нечым вельмі істотным. У першым выпадку на вуліцу людзей штурхае само жыццё, жаданне фізічна жыць далей. У другім – трэба мець сталую грамадзянскую пазіцыю, адчуванне сябе ў грамадстве, сваёй неабходнасці ў дзяржаве. І гэты другі шлях патрабуе значных чалавечых высілкаў.

У нашых умовах, дзякуй Богу (а таксама падачкам з Расіі і працалюбівасці беларускага насельніцтва), беларусы не галадаюць. Пакуль не галадаюць... Але ж нешта прымусіла дзесяткі тысяч беларусаў выходзіць на вуліцу на працягу тыдня! У чым тут сакрэт? А ўсё даволі проста...

Беларусы сапраўды мірныя і талерантныя людзі. Па меншай меры, яны былі такімі да 19 сакавіка 2006 года. І як не імкнулася шаноўная беларуская апазіцыя змяніць гэтую рэчаіснасць на працягу 12 год, ніяк не атрымоўвалася. Парадаксальна, але факт: дапамога прыйшла з боку кіраўніцтва краіны. Сваімі дзеяннямі ўлада канчаткова змяніла беларуса, паказаўшы свой сапраўдны твар. Тысячы людзей, тысячы лёсаў, за кожным з якіх стаяць такія ж тысячы родных, знаёмых і сяброў. І ўсе яны на ўласныя вочы пабачылі тое, што так доўга ўлада хацела схаваць ад свайго народа: бруд, гвалт, падман і нянавісць да свайго народа. Улада больш не прыкрываецца фігавым лістком, не будуе так масава пацёмкінскія вёскі, а дзейнічае наўпрост: злавіў, збіў, пасадзіў...

...19 сакавіка мы прыйшлі на Плошчу, бо хацелі даведацца сапраўдныя вынікі галасавання. Па таму, як праходзіла перадвыбарчая кампанія, мы не мелі ніякіх ілюзій наконт афіцыйных рэзультатаў выбараў, таму прыйшлі да народа. Я быў шчаслівы бачыць 25 тысяч вясёлых твараў сваіх суайчыннікаў, якія апынуліся разам са мною ў гэты час на пляцы, афіцыйна названым Кастрычніцкім. Яны не пабаяліся «тэрарыстычных» пагрозаў ад КДБ, не пабаяліся «бомбавых» правакацый. Яны – не, МЫ! – выйшлі з кветкамі і паветранымі шарыкамі, каб пачуць ПРАЎДУ.

Што за феномен у нашых рэаліях: людзі патрабуюць не чарку ды шкварку, а хочуць ведаць праўду? Патлумачу па-простаму, «па-кухоннаму». Калі Вас на вуліцы назвалі «казлом» ці «дэбілам», якая Ваша рэакцыя? Так, Вас абразілі. Калі Вас у магазіне нахабна «кінулі» на 5 тысяч рублёў, што Вы адчуваеце? Так, Вас падманулі. А калі Вас, майстара сваёй справы з вялікім вопытам, нейкі малойчык на працы папракае ў непрафесіяналізме, Ваша рэакцыя? Так, Вас зняважылі.

Калі ТАК, тады патлумачце мне, што павінен адчуваць нармальны чалавек, калі з экранаў нацыянальнага тэлебачання ўласны народ называюць «дэбіламі»; беларускае грамадства «кідаюць», гаворачы пра фантастычныя 83 працэнты; і на ўсё гэта зверху выліваюць тоны бруду, нахабнай ілжы і хамства??? Я думаю, Вы ўсё гэта бачылі, таму разумееце сэнс гаворкі.

І людзі пачулі ПРАЎДУ. Па неафіцыйных дадзеных Лукашэнка набраў каля 40, Мілінкевіч каля 25, Казулін каля 10 працэнтаў галасоў. Гэта дадзеныя так званых экзітполаў (апытанне ля выбарчых участкаў пасля галасавання), праведзеных незалежнымі экспертамі. Плюс-мінус два-тры працэнты, зразумела, павінен быць другі тур выбараў. Заўважым, паважаныя спадары Мілінкевіч і Казулін не аб'явілі сябе Прэзідэнтамі Беларусі. Нават па тых дадзеных, якія былі абвешчаны прадстаўнікамі штаба Мілінкевіча, бачна, што па колькасці перамог Лукашэнка («чэсна» ці «нячэсна» – справа другая). Але А.Р.Лукашэнка не набраў не тое што 83 працэнты, але ён не змог перайсці 50-працэнтны бар'ер! Таму грамада патрабавала другога туру, патрабавала мірным шляхам.




У тую нядзелю Плошча вітала людзей, якія перамаглі страх, але тады гэтых людзей было каля 20-30 тысяч. Для Маладзечна вельмі значная лічба, але ў межах усёй Рэспублікі... Многа, ды не вельмі. Таму было прынята разумнае рашэнне: прайсці мірным шэсцем да Плошчы Перамогі і ўскласці кветкі да помніка героям Вялікай Айчыннай вайны, а назаўтра (калі стануць вядомыя афіцыйныя папярэднія вынікі выбараў) прыйсці на Кастрычніцкі пляц і прывесці з сабою сяброў, родных і знаёмых. Час прызначаны на 18:30. Разлік быў стопрацэнтны: 19 сакавіка мітынг і шэсце прайшлі мірна, хапуна не было, людзі адчувалі свята. Матэматычны падлік мінімальнай колькасці ад дылетанта ў той дзень можна назваць «сістэма 1+2»: 25 тысяч плюс 2 чалавекі ад кожнага з іх будзе прыкладна 75 тысяч чалавек. А калі не па 2 знаёмых, а болей? Гэта ўжо зусім іншая размова. З такімі думкамі мы мірна разышліся па хатах, каб заўтра сустрэцца...



А назаўтра, 20 сакавіка, Ярмошына аб'віла пра знакамітыя 82,6 працэнты за «дзействуюшчэга» Прэзідэнта, БТ запускала новыя праграмы з цыклу «Чорны піяр па-беларуску», а першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь даваў нервовую прэс-канферэнцыю, пасля якой яго не будзе бачна амаль два тыдні. Але гэта будзе потым, а сёння дзень абяцаў быць знамянальным...

Зрабіўшы за дзень усе неабходныя справы (жыццё ёсць жыццё, і нішто яго не спыніць), увечары мы рушылі на Плошчу, каб у чарговы раз заявіць пра сваю дэмакратычную пазіцыю і патрабаваць другі тур выРАБаў. Прабачце, *ВЫБАРАЎ*, канешне...

Але перад гэтым вырашылі абысці ваколіцы. Здаецца, усё ціха, толькі вуліцы зачынены для праезду аўтамабіляў. Але праходзім крыху і нечакана заўважаем рух: збоку выяжджаюць дзесяткі машынаў ды аўтобусаў. Вырашаем падлічыць іх колькасць: я лічу аўтобусы, брат – ваенныя машыны. Адзін, два, тры... Дзесяць, дваццаць... Налічылі 32 ваенныя камазы ды ўралы, а таксама 22 аўтобусы МАЗ, некалькі машынаў хуткай дапамогі і міліцыі. Гэтая аграмадная калона праяжджала праз двары на разварот і станавілася ў напрамку плошчы. У аўтобусах ды машынах можна было бачыць амапаўцаў ды ваенных у касках і са шчытамі...

- Хлопцы! Ён што, аб'явіў нам вайну??? – гучна спытала бабуля, якая стаяла побач. І сапраўды, гэта нагадвала ваеннае становішча. Казалі, такую карціну можна было бачыць усіх бакоў Плошчы.

А тым часам Плошча збірала людзей. Мы з братам сустрэлі 9 сваіх знаёмцаў і сяброў, якіх запрасілі на Пляц на другі дзень. З іх двое – таксама маладачанцы. 19 яны не выйшлі, бо перш за ўсё пабаяліся, але пасля мірнай дэманстрацыі напярэдадні і нашых заклікаў яны вырашылі далучыцца. Вось толькі калі мы ступілі на Пляц, я быў непрыемна здзіўлены і нават разгублены. 7 гадзін вечара, а людзей напалову меней, чым учора. Як такое магчыма? А як жа «сістэма 1+2»? І ўсё ж ткі мы чакалі: а мо палова яшчэ на працы, а мо не пачулі час і прыйдуць а восьмай, а мо... Час ішоў, а людзей станавілася ўсё менш і менш. Вось толькі на гэты раз Плошча вырашыла заставацца. Менавіта Плошча як сукупнасць людзей, а не нехта канкрэтна з палітыкаў.

А 23 гадзіне, пасля перамоваў з міліцыяй, вырашылі не парушаць заканадаўства і выключыць музыку. Ужо тады на Пляцы стаяла некалькі намётаў (гавораць, адзін з іх быў прывезены з Маладзечна), якія ахоўваліся шчыльным ланцугом смелых хлопцаў і дзяўчат. Але арганізацыйна на той момант цяжка было пахваліцца: людзям як істотам жывёльнага свету неабходна хадзіць па патрэбе, сагравацца ад холаду, нарэшце змагацца са сном.

Ды туалетаў на Плошчы не было, гарачай кавы ды гарбаты не хапала, а музыку адключылі... Таму самі шукалі выйсце: купкамі па 20-30 чалавек бегалі ў двары, хадзілі да знаёмых па гарачую каву альбо гарбату, беспярэпынна крычалі лозунгі ды пелі песні, каб падбадзёрыць адно аднаго. Ды толькі той, хто сыходзіў з Плошчы, не заўсёды вяртаўся: мы думалі, яны сышлі дамоў, аказалася, што тому, хто сыходзіў пасля 1-й уначы, «прапаноўвалі» на 7, 10, 15 сутак новае месца жыхарства, пераважна на Акрэсціна. Але пра гэтае даведаліся мы толькі потым, а ў той час стаялі і кожную секунду чакалі хапуна: я, мой брат, мой лепшы сябра і знаёмы журналіст з Польшчы...

Недзе а 3-й мы вырашылі пад'ехаць да сябра, які жыве ў Менску, каб схадзіць у прыбіральню, узяць гарбаты ды цёплых рэчаў. Адзіным магчымым і небяспечным шляхам мы палічылі спробу выклікаць таксі. У службе «052» у мяне спыталі імя і нумар тэлефона і паабяцалі таксоўку праз 5 хвілін. Але не паспеў я паклаці слухаўку, як мне патэлефанаваў таксіст і сказаў, што не мае магчымасці пад'ехаць на Плошчу:



супрацоўнікі ДАІ забараняюць. Але ён заклікаў нас падысці да будынку цырка, дзе ён спыніўся. Мы рушылі ўздоўж Праспекта Незалежнасці ўбок Плошчы Перамогі...

Да машыны таксі заставалася якіхсьці 50 метраў, калі да нас падбеглі людзі ў чорным адзенні. Яны загадалі нам перадаць дакументы (пашпарты, студэнцкія білеты) і выключыць мабільныя тэлефоны. А потым усё было нібы ў жудасным сне. Нас давялі да цёмнага парку Янкі Купалы, што насупраць цырка, і перадалі ў лапы невядомых малойчыкаў таксама ў чорным адзенні. Нас білі рукамі і нагамі па тварах, па нагах, па тулве. Нас гналі ў цемру, збіваючы на ўсім шляху да прызначанай цэлі – міліцэйскага аўтобуса. А потым кінулі на падлогу аўтобуса, нібы мясныя тушы пры пагрузцы. Людзі ляжалі адзін на адным у нейкай страшнай, незразумелай кучы: маса целаў, пераплеценых адно з адным. Загрузіўшы «тавар», аўтобус рушыў у невядомым напрамку. Нас пужалі Курапатамі, пагражалі нажом, некаторых хлопцаў хапалі за валасы і дэманстратыўна адразалі пасмы, дзяўчынак пужалі нейкімі жудаснымі кадрамі іракскай вайны на маленькім экране тэлекамеры. Хвіліны цягнуліся вельмі доўга, здавалася, гэтаму не будзе канца. Білі па тварах, прымушалі ганьбіць дэмакратычных кандыдатаў у Прэзідэнты і славіць першага Прэзідэнта незалежнай Беларусі, хадзілі проста па целах маладых людзей, харкалі ў збітыя твары і ўвесь час мацюкаліся благім матам...

Цікава, а калі б нас сапраўды завезлі ў лес, забілі і пахавалі ў адной братэрскай магіле, ці было б да гэтага камусьці справа (акрамя родных і блізкіх, зразумела)? Ці адшукалі б нас потым? А можа мы б сталі проста такімі ж «без вести пропавшими», як Ганчар, Завадскі, Красоўскі ды Захаранка? Калі вам, паважаныя маладачанцы, зараз гэта падаецца абсурдным і немагчымым, то нам там, на падлозе аўтобуса, гэты «варыянт» здаваўся вельмі рэальным.

Мэта такой жорсткасці была зразумелая: прынізіць, запужаць і зняважыць. Але вынік яны атрымалі супрацьлеглы: сваімі дзеяннямі ўлада атрымала сотні і нават тысячы загартаваных маладых патрыётаў сваёй вольнай краіны. Ці было нам страшна? Так, вельмі страшна. Але мы перамаглі гэтае пачуццё, мы паўсталі з кален. А таго, хто паўстаў аднойчы з кален, вядома, вельмі цяжка загнаць у рабства ізноў.

Потым быў спецпрымальнік-размеркавальнік на завулку Акрэсціна, былі пратаколы, вопісы, псеўда-суды і... суткі. Доўгія суткі чакання свабоды. І мы яе дачакаліся, гэтай свабоды. Можа хутка і наша любая краіна дачакаецца сваёй свабоды. Дачакаецца, верым у гэта.

***

Учора мы былі проста юнакамі і дзяўчатамі, якія жылі сваім жыццём, час ад часу чыталі незалежную прэсу, спачувалі апанентам улады, пісалі свае дэмакратычныя водгукі на інтэрнэт-форумах, размаўлялі на кухні пра хлуслівае беларускае тэлебачанне ды несправядлівасць. Так, нас білі, прыніжалі ды плявалі ў твар, але асабіста я (і спадзяюся, да маіх словаў далучыцца шмат хто з удзельнікаў тых жудасных і гераічных падзей) ганаруся тым, што апынуўся на Пляцы імя Кастуся Каліноўскага ў час, калі паклікала краіна. Гэта, на мой погляд, і завецца патрыятызмам. Зараз мне не сорамна перад сваімі землякамі. Чалавек паўстае супраць сістэмы толькі ў тым выпадку, калі яго асабіста зачапілі. Мяне асабіста зачапілі, калі прынізілі маю годнасць і наплявалі ў душу. А вас, паважаныя маладачанцы?

Я дзякую ўсім ГЕРОЯМ вольнай Беларусі, якія перайшлі Рубікон страху і прынялі на сябе першы моцны і жорсткі ўдар рэжыму. Ведаю, што на Плошчы было шмат людзей з нашага свабодалюбівага горада Маладзечна (дарэчы, я асабіста ведаю дзевяць чалавек з Маладзечна і маладачанскага раёна, якія былі на Плошчы ў Менску 19-25 сакавіка; а колькі нашых землякоў было насамрэч?) І я ганаруся тым, што быў з вамі побач. Бо толькі калі разам з сотнямі людзей адначасова падымаешся па-над страхам і безвыходнасцю, ты разумееш, што ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Юры ГУРТОЎСКІ,
*маладачанскі хлопец,*
*сведка падзей 19-20 сакавіка*
*на Пляцы Каліноўскага*

*С момента аварии на Чернобыльской АЭС прошло уже 20 лет. Срок большой. И неудивительно, что у многих за это время сложилось впечатление, что самая крупная техногенная катастрофа XX века — дело прошлое. Но это впечатление обманчиво. Масштаб трагедии настолько велик, что до конца оценить его можно будет еще не скоро.*

*Вспомним 1986 год — как это было, поскорбим о жертвах Чернобыля, хотя, по большому счету, жертвы — мы все, расскажем, как преодолеваются последствия самой крупной техногенной катастрофы в истории, как будет отмечаться 20-я ее годовщина.*

Алексей ЗОЛОТНИЦКИЙ. «Белорусские новости»

# Авария на ЧАЭС — дело прошлое?

Взрыв на ЧАЭС произошел в ночь на 26 апреля. Допущенная при проектировании станции ошибка привела к расплавлению защитной оболочки реактора и выбросу облака радиоактивных осадков. Четвертый энергоблок был разрушен полностью, тысячетонную плиту, накрывавшую его, снесло как соломенную. Три сотрудника станции погибли сразу же, причем тело одного из них так и осталось внутри — извлечь его не позволил чрезвычайно высокий уровень радиации. Объем выброса радиации при взрыве на ЧАЭС и возникшем после этого пожаре, по оценкам специалистов, более чем в 100 раз превысил аналогичный показатель при взрыве атомных бомб в Хиросиме и Нагасаки.

Советское правительство несколько дней замалчивало факт аварии, чем еще более усугубило трагические последствия катастрофы. Жителей украинского города Припять, расположенного всего в нескольких километрах от станции, известили об аварии лишь через 36 часов после взрыва. Все это время жители 45-тысячного городка вели обычную жизнь, дети гуляли на улице.

Ликвидировали последствия аварии также с советским размахом — страна большая, людских ресурсов много. При сборе остатков ядерного топлива с крыши машинного зала и третьего энергоблока пытались использовать роботов, но техника не выдерживала, тогда им на смену запустили биороботов — солдат срочной службы, собиравших топливо вручную.

В первые 10 часов после аварии, чтобы потушить пожар и таким образом остановить выброс радиоактивных материалов, в активную зону реактора пожарными закачивалась вода. После 10 часов безрезультатных попыток погасить реактор таким способом решили действовать по-другому.

Последующие девять суток реактор забрасывали с воздуха твердыми материалами — за это время 30 участвовавших в операции вертолетов сбросили на горящий реактор среди прочих материалов 2 400 тонн свинца и 1 800 тонн песка. Предполагалось, что такая мера позволит задержать излучение. Но, по сути, был достигнут обратный эффект. Под сброшенными материалами теплота стала накапливаться, а температура в реакторе подниматься. Соответственно, увеличилось и количество выбрасываемой радиоактивности. Во время последней фазы тушения реактор охлаждали азотом. И только к 6 мая пожар и радиоактивная эмиссия были взяты под контроль.

В первые дни после аварии диагноз «сильное радиационное облучение» был поставлен 134 рабочим и пожарным из числа тех шестисот, кто первыми прибыли к месту аварии. Более 30 из них умерли в течение трех месяцев после взрыва. Всего в аварийно-спасательных и восстановительных работах — сначала расчищая завалы, а потом сооружая саркофаг — приняло участие около 800 тысяч человек (более 25 тысяч уже умерли). 115 тысяч из этих ликвидаторов проживают сегодня в Беларуси. Всего же на диспансерном учете находятся 1,5 млн. граждан нашей страны, в той или иной степени пострадавших от аварии на ЧАЭС.

Катастрофа принесла беды во многие страны, но наиболее от взрыва пострадала Беларусь. Около 70% радиоактивных осадков выпало на территории нашей страны. Причем изотопом йода (йод-131) была заражена фактически вся Беларусь. Несмотря на то что у йода-131 наименьший из всех радионуклидов период полураспада (8 дней), именно он представлял наибольшую опасность в первые дни после аварии, так как организм человека не может отличить радиоактивный йод от природного и накапливает его в первую очередь в щитовидной железе. Особенно пострадали дети, среди которых был отмечен большой рост заболеваемости раком щитовидной железы. По оценкам специалистов, сегодня той или иной формой патологии щитовидной железы страдает более 30 процентов населения Беларуси.

Кстати, йодсодержащие препараты, которые должны были препятствовать попаданию в организм радиоактивного йода, среди оставшегося на загрязненной территории населения начали распространять только 23 мая, почти через месяц после взрыва. С медицинской точки зрения, эта мера была крайне запоздалой.

Последствия выброса в окружающую среду других изотопов нам предстоит расхлебывать еще очень долго. У цезия-137 период полураспада — около 30 лет, некоторые изотопы стронция имеют период полураспада до 90 лет. Таким образом, вся цепочка полураспадов (то есть, до тех пор, пока не будет достигнут нерадиоактивный элемент) завершится только лет через триста.

Между тем, по официальным данным, на сегодняшний день радиоцезием загрязнено 20 процентов территории Беларуси, радиостронцием — 10 процентов. А около двух процентов территории не будут пригодны для жилья в течении нескольких тысячелетий. Согласно расчетам специалистов Комчернобыля, к 2023 году в Беларуси останется 16% загрязненных территорий (к зонам радиоактивного загрязнения относятся территории с плотностью загрязнения цезием-137 от 1 кюри на кв. км и выше).

На этих территориях сейчас проживает 1,3 млн. человек — фактически каждый десятый житель Беларуси. Всего же за прошедшие 20 лет из пострадавших районов Беларуси было отселено 137,7 тысячи человек из почти 500 населенных пунктов. Многие деревни, принявшие на себя основной радиационный удар, сегодня можно отыскать только на старых картах. Эти деревни в буквальном смысле похоронили — дома со всей находившейся внутри утварью, хозяйственные постройки, сады и огороды сравняли бульдозерами и закопали.

В первые дни после аварии, в начале мая, из Брагинского, Хойникского и Наровлянского районов было эвакуировано 50 деревень (более 11 тысяч человек). В начале июня было переселено еще 28 деревень (более 6 тысяч человек), а в конце августа — еще 29 деревень (более 7 тысяч человек). Всего из 30-километровой зоны вокруг атомной станции (с территории трех стран) было эвакуировано свыше 130 тысяч человек. Люди уезжали в неизвестность, оставляя свои в один миг ставшие опасными для жизни дома навсегда, хотя в самом начале о переселении говорилось как о временной мере. Брать с собой практически ничего не разрешалось. И вернуться туда уже невозможно. Это зона отчуждения — закрытая и охраняемая. Хотя закрытость зоны не мешала мародерам грабить брошенные дома. В 1988 году на территории зоны отчуждения был создан Полесский государственный радиационно-экологический заповедник.

Также, согласно решению еще советского правительства, которого впоследствии придерживались и власти уже независимых Беларуси, Украины и России, было переселено в чистые районы население с территорий, уровень загрязнения которых цезием-137 превышал 15 Ки/км2. С тех территорий, уровень загрязнения которых превышал 40 Ки/км2, население было переселено принудительно.

Но кроме обязательного переселения многие жители попавших под радиационный удар районов покидали свои дома самостоятельно. Люди, даже несмотря на успокаивающую советскую пропаганду, сумели составить свое собственное представление о масштабе трагедии и принимали единственно правильное для себя и своих семей решение — уехать подальше от беды. В начале 90-х годов поток самостоятельных переселенцев, по некоторым данным, количественно даже превышал поток отселяемых в обязательном порядке. Впрочем, точной статистики на этот счет — кто переехал сам, а кто вынужденно — нет до сих пор.

На первые годы 90-х также пришлась и новая волна отселений, которая началась под давлением общественных организаций и прессы, вынудивших правительства трех стран более конкретно заняться проблемой жизни населения в чернобыльских районах. В 1991-92 годах из 17 районов Беларуси было отселено порядка 54 тысяч человек. Наибольшее количество из них составили жители Хойникского района (к 2000 г. территорию района покинуло 47% населения).

Самостоятельно уезжали люди и из Наровлянского и Краснопольского районов.

Жители чернобыльских районов расселялись фактически по всей территории Беларуси. Значительная часть переселенцев — около 20% — осела в Минске, некоторые микрорайоны которого большей частью заселены именно чернобыльцами (Шабаны, Малиновка). Компактно расселялись жители загрязненных районов также в Гомеле и Могилеве и в «чистой» сельской местности этих областей. К примеру, из 16 тысяч населения Дрибинского района Могилевской области более 7 тысяч составляют переселенцы. Причем руководители некоторых хозяйств из этих «грязных» районов начали строить на Дрибинщине дома и перевозить туда своих людей еще до официального решения властей о переселении.

Процесс переселения людей с загрязненных территорий не завершен до сих пор. По официальным данным, все еще подлежат выселению 47 населенных пунктов, в которых остаются жить люди. На сегодняшний день в «грязной» зоне продолжают жить 387 человек. Причины, по которым эти люди до сих пор не переехали, самые разные. Старики просто хотят умереть в своем доме и быть похороненными рядом с предками. Другим просто некуда деться — справка из мест лишения свободы вместо паспорта существенно ограничивает перспективы. Актуальна проблема и самоселов — беженцы из постсоветских стран нищете и голоду на своей родине предпочитают невидимую угрозу радиации в Беларуси.

Впрочем, специалисты Комчернобыля уверены, что к 2007 году процесс переселения будет окончательно завершен. Оставшимся в чернобыльских районах семьям в ближайшее время будут предложены квартиры в чистых районах Гомельской, Могилевской и Брестской областей.

Кстати, первое лицо нынешней белорусской власти президент Александр Лукашенко политику своих предшественников о массовом переселении считает неправильной. «В то время людей очень сильно перепугали. Все на этом делали политику и тем самым загубили Гомельскую область», — говорил Лукашенко во время одной из своих традиционных поездок по чернобыльским районам.

Материальные проблемы переселенцев за эти 20 лет государство решать кое-как научилось. В доказательство чиновники приводят цифры статистики. Согласно этим данным, для переселенцев было построено более 66 тысяч квартир и домов в чистых районах, возведено 239 поселков с необходимой инфраструктурой и предприятиями сервиса. В поселках и компактных местах проживания переселенцев построены общеобразовательные школы на 45 тысяч ученических мест, детские сады и ясли на 18,5 тысячи детей, поликлиники и больницы.

По чернобыльским землям проведено свыше 2 тысяч км газопровода.




Структура агульнай смяротнасці на тэрыторыі Гомельскай вобл. за 2003 г.

# Ці быў Чарнобыль?

Галіна СКАРАХОД, Фонд спрыяння лакальнаму развіццю

*У адрозненне ад экспертаў МАГАТЭ не з'яўляюся прафесіяналам у галіне "мірнага атама", але маю досвед грамадскай працы ў пацярпелых раенах. Не скажу, што гэта падабаецца мясцовай уладзе – маю праблемы ў сваёй дзейнасці, але гэта не перашкаджае мне кантактаваць з людзьмі і цікавіцца іх праблемамі. Гэты артыкул выражае погляды людзей, пражываючых у зоне, на апошнія вывады МАГАТЭ па наступствах Чарнобылю.*

Такое ўражанне, што МАГАТЭ (што апошнім часам не дзіўна) вырашыла адным росчыркам пяра пазбавіцца ад праблемаў чарнобыльскіх наступстваў, сцвярджаючы, што асноўная колькасць захворванняў у Чарнобылі не ад рэальнага ўзроўню радыяцыі, а ад "галавы". Задзейнічана для гэтага аж 100 навукоўцаў – у тым ліку з пацярпелых краін.

Калі б яны сядзелі месяцамі ў забруджанай зоне, вывучалі ўзровень радыяцыі ў прадуктах харчавання, глебе, донных адкладаннях рэк і азер, стан здароўя людзей, размаўлялі з мясцовымі жыхарамі, то можна было б і паверыць. Аказваецце, не. Яны займаліся аналізам афіцыйных дадзеных, седзячы пры гэтым ў Вене, Нью-Йорку і недзе яшчэ. А можа, за гэтыя 20 год, што прайшлі пасля аварыі, памяняліся перыяды паўраспада цэзія, ці стронцыя? Ці сення гэтыя элементы ўжо ўвогуле не ўздзейнічаюць на чалавечы арганізм?

Нават не пытаюся, хто прадстаўляў Беларусь – зразумела, што не прафесар Бандажэўскі, ці нехта яму падобны. Хутчэй за ўсе, нейкі чыноўнік, гатовы сцярпець такую паразу – аказваецца, людзі гінуць у Чарнобыльскай зоне не ад радыяцыі, а выключна ад недахопу ежы і дрэнных умоваў жыцця – гэта ўжо не экалагічная аварыя, гэта бомба ў адрас дзяржавы. Гэта проста ўдар па іміджу кіраўніцтва краіны, якое кругласутачна на БТ дбае пра лес свайго народа!

Незразумела адно – чаму міжнародная структуры, якая павінна выступаць гарантам бяспекі для пацярпелых людзей і патрабаваць выканання кожнай краінай абавязкаў ў сферы барацьбы з чарнобыльскімі наступствамі, выгадна сення закрыць вочы на рэальную карціну. Спадзяюся, не з нагоды абароны "мірнага атама".

Працуючы апошнім часам з насельніцтвам трох "забруджаных" раенаў, магу заверыць навукоўцаў з МАГАТЭ, што людзі сення мала цікавяцца пытаннямі, звязанымі з Чарнобылем – шмат іншых сацыяльных праблем. Аб гэтым сведчыць аналіз зваротаў грамадзян, падрыхтаваны Хойніцкім райваканкамам за першае паўгоддзе бягучага года. Так, асноўнымі застаюцца жыллевыя пытанні, камунальныя паслугі, землеўпарадкаванне. З чарнобыльскімі зноў жа звязваюць прадастаўленне жылля, выплату кампенсацый, адсяленне.

Сапраўды, ніхто не паскардзіўся на высокі ўзровень смяротнасці, на дрэннае самаадчуванне, на павышаны ўзровень стронцыя ў прадуктах харчавання. Пра гэта распавядаюць, толькі калі пытаеш. Людзі забыліся пра гэтую нябачную пагрозу. Але гэта не значыць, што яе няма. Факты гавораць самі за сябе. Прывяду невялікія прыклады з афіцыйных крыніц па адной з абласцей Беларусі – Гомельскай, найбольш пацярпелай.

Па дадзеных радыялагічных лабараторый Брагінскага і Хойніцкага раенных цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі

*Працяг на 4 стар.*

# Зварот Нацыянальнага аргкамітэту «Чарнобыльскага шляху»

«Цяперашняя ўлада знішчае беларускі народ фізічна. Мы выміраем. За апошнія 10 гадоў колькасць жыхароў Беларусі скарацілася на паўмільёна – да 9 500 000 чалавек. Многія працавітыя і адукаваныя людзі, якія зразумелі, што ім тут не дадуць годна жыць, з'ехалі за мяжу. Чарнобыльская катастрофа закранула КОЖНАГА жыхара Беларусі:

– чвэрць нашай тэрыторыі, дзе жыве 1 840 000 чалавек, забруджана радыянуклідамі;

– на моцна заражаных тэрыторыях (ад 15 да 40 кюры) жыве 140 000 чалавек, хаця ў Расеі ды Украіне з такіх зонаў даўно ўсіх адсялілі;

– на заражаных тэрыторыях вырошчваюць харчовыя прадукты, якія ўсе мы спажываем.

У ВЫНІКУ:

– ад радыяцыі ў Беларусі ужо памерла 200 тысяч чалавек;

– першасная інваліднасць з 1986 года павялічылася на 50%;

– колькасць генетычных адхіленняў у немаўлятаў узрасла ў 8 разоў;

– толькі 13% выпускнікоў школ лічацца здаровымі.

АЛЕ цяперашняе кіраўніцтва краіны не кажа праўды пра Чарнобыль. Улады спынілі адсяленне з забруджаных раёнаў і аб'явілі іх чыстымі. Яны прымусова размяркоўваюць выпускнікоў універсітэтаў у чарнобыльскія раёны.

Мы ўсе – закладнікі рэжыму, які хлусіць нам, які не дбае пра здароўе і жыццё людзей. Мы патрабуем:

– сказаць праўду пра наступствы катастрофы;

– адсяліць людзей з моцна заражаных тэрыторыяў (15 і больш кюры);

– забяспечыць інвалідаў Чарнобыля лекамі і лячэннем;

– вярнуць ільготы ліквідатарам;

– спыніць вытворчасць прадуктаў на забруджаных тэрыторыях;

– адмяніць абмежаванні на гуманітарную дапамогу чарнобыльцам з-за мяжы;

– спыніць прымусовае размеркаванне студэнтаў.

Беларусы стаміліся ад няпраўды. 19 сакавіка мільёны людзей прагаласавалі за новага прэзідэнта Аляксандра Мілінкевіча, за Свабоду, Праўду і Справядлівасць.

Але ніхто не лічыў галасы. У выбарчых камісіях не было прадстаўнікоў альтэрнатыўных кандыдатаў і дэмакратычных сілаў. Пратаколы выбарчых камісіяў былі загадзя падрыхтаваныя – з 83% за Лукашэнку. У нас укралі нашыя галасы.

Таму дзесяткі тысячаў адважных людзей на заклік свайго сэрца, нягледзячы на холад і на запалохванні ўлады, выйшлі на цэнтральную плошчу сталіцы. Чатыры дні і чатыры начы стаяў беларускі Майдан, дзе сабраліся мужчыны і жанчыны, гараджане і сяляне, моладзь і пенсіянеры, навукоўцы і рабочыя. Людзі годна і мірна патрабавалі новых, справядлівых выбараў. Іх разагналі грубай сілай. Каля паўтары тысячы чалавек былі кінутыя ў турмы. Улада не чакала такога пратэсту, і нават турмы не былі гатовыя прыняць гэтулькі вязняў.

Ніводная дэмакратычная краіна свету не прызнала «выбараў» 19 сакавіка, бо былі парушаныя ўсе магчымыя міжнародныя нормы. Дастаткова сказаць, што трэць выбаршчыкаў адміністрацыйным прымусам загналі на папярэдняе галасаванне, а назіральнікам – як міжнародным, так і беларускім – не дазвалялі назіраць падлік галасоў, г.зв. выконваць свой прамы абавязак.

Нягледзячы на пагрозу рэпрэсіяў, каля 30 тысячаў чалавек ізноў выйшлі на менскія вуліцы ў Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка. Гэта была мірная маніфестацыя тых, хто не пагадзіўся быць прыніжаным і падманутым. Аднак улады зноў ужылі сілу супраць мірных дэманстрантаў.

І тым не менш, мы не баімся. Беларускае грамадства пераадолела страх. Відавочна, што Лукашэнка не дабудзе да канца чарговага пяцігадовага тэрміну. Каб гэта адбылося хутчэй, нельга пагаджацца з вынікамі сфальшаваных выбараў. Трэба працягваць і пашыраць мірны пратэст супраць здзеку з народу.

**МЫ ХОЧАМ ЖЫЦЬ У СВАБОДНАЙ КРАІНЕ, УЛАДЫ ЯКОЙ НЕ ЛГУЦЬ СВАІМ ГРАМАДЗЯНАМ.**

**МЫ ХОЧАМ БЫЦЬ ЗДАРОВЫМІ.**

**МЫ ХОЧАМ, КАБ НАШЫЯ ГАЛАСЫ НА ВЫБАРАХ ПРАЎДЗІВА ЛІЧЫЛІ.**

**ЗАКЛІКАЕМ НА ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ!**

**26 красавіка, 18.00, Кастрычніцкая плошча»**

# ЗВАРОТ АЛЯКСАНДРА МІЛІНКЕВІЧА ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ

## *Будзем разам – і мы пераможам!*

Рыхтуючы "выбары", інквізітары ад улады разграмілі недзяржаўны друк, зліквідавалі сотні няўрадавых арганізацыяў, партыяў, забаранілі незалежныя сацыялагічныя даследаванні. Арыштавалі, кінулі ў турмы больш за тысячу актывістаў, сотні звольнілі з працы, адлічылі з універсытэтаў.

З фальшывых працэнтаў «усенароднай падтрымкі» смяецца ўся разумная Беларусь, увесь свет. Уладар прызначыў сябе яшчэ на адзін тэрмін з дапамогай гвалту і маны. Гэта Пірава перамога. Яго ўплыў на грамадства няўмольна падае.

Ён прайграў, але ці выйгралі мы? Так. У розумах людзей. Мы аб'ядналіся, пераадолелі страх і гатовыя змагацца за сваю годнасць. Беларусь ужо іншая. Смялейшая, вальнейшая, больш інфармаваная.

Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы зрабілі сапраўдны прарыў. Мы арганізавалі летась сходы грамадскасці ў 110 раёнах, вылучылі тысячу дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў і правялі яго 2 кастрычніка ў Мінску, дзе назвалі імя адзінага кандыдата і прынялі праграму сумесных дзеянняў. У нашай кааліцыі 10 партыяў і больш за 200 няўрадавых арганізацыяў, больш за 10 тысяч актывістаў.

Мы ў кароткі час правялі больш за сотню сустрэчаў у 40 гарадах, распаўсюдзілі больш за 2 мільёны ўлётак і буклетаў і дамагліся таго, што сёньня адзінага кандыдата ведаюць не менш за 90% выбаршчыкаў, і вялікая частка ставіцца да яго пазытыўна.

Мы сабралі 260 тысячаў подпісаў, а на нашых сустрэчах, часта забароненых уладаю, пабывалі дзясяткі тысячаў чалавек.

Рэжым запалохваў людзей турмой, абзываў тэрарыстамі і нават пагражаў «вышэйшай мерай». Але 19 сакавіка дваццаць тысячаў грамадзян выйшлі з пратэстам супраць беззаконня, маны і гвалту. Тысячы людзей стаялі на цэнтральнай плошчы Менска дзень і ноч, чацьвёра сутак, не баючыся рэпрэсіяў, і ўлада не рашалася іх разагнаць. Упершыню за апошнія дзесяць гадоў нас было гэтулькі шмат.

Але дыктатура не аддае ўладу на выбарах, яна прайграе толькі сіле народу. Мы пераможам толькі тады, калі на вуліцы Мінска мірна выйдуць не дзесяткі, а сотні тысяч людзей.

Мы правялі падчас выбарчай кампаніі штурм дыктатарскай крэпасці. У яе мурах зараз з'явіліся прабоіны і расколіны. Скрозь іх усім ужо відаць паніка яе «абаронцаў». І зараз мы не адступаем, а пераходзім да аблогі. Гэта не слабасць, а разумны і дакладны разлік. І я ведаю, што чакаць 5 гадоў нам не прыйдзецца. Перамога незваротна на нашым баку.

25 сакавіка, у Дзень Волі, на шматтысячным мітынгу я заявіў аб стварэнні шырокага грамадзянскага руху за свабоду, праўду і справядлівасць. Мы пераходзім ад этапу цудоўнага рамантычнага імпэту мужнай меньшыні да штодзённай асветнай і інфармацыйнай працы дзесяткаў тысяч валанцёраў свабоды. Ядром нашага руху сталі палітычныя партыі і няўрадавыя арганізацыі, якія вылучылі мяне адзіным кандыдатам на Кангрэсе дэмакратычных сілаў летась. Аднак падчас кампаніі да нас далучыліся тысячы і тысячы людзей, якія раней не ўдзельнічалі ў актыўным палітычным жыцці. І гэты рух – ініцыятыва грамадзянаў Беларусі. Мы падняліся на якасна новы ўзровень і не маем права змарнаваць гэты патэнцыял. Нас усіх аб'ядноўвае жаданне зрабіць Беларусь дэмакратычнай, справядлівай і цывілізаванай краінай.

Сёння ў аснове нашых дзеянняў тры асноватворныя кірункі:

**1. Свабодныя выбары**

Нашая мэта – свабодная і заможная краіна, а значыць, мірнае выкараненне дыктатуры. Мірныя акцыі пратэсту – толькі нязначная частка нашай стратэгіі. Мы будзем весьці збор подпісаў дзеля зменаў у Выбарчым кодэксе, адклікаць дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і мясцовых саветаў і г.д. Усе нашыя крокі скіраваныя на стварэнне ў Беларусі ўмоваў для свабодных і адкрытых выбараў.

**2. Свабоднае слова**

Мы прарвем інфармацыйную блакаду, створаную ўладай для адурманьвання, запалохвання і знявагі ўласнага народу. Мы ўмацуем незалежную сетку распаўсюду праўдзівай інфармацыі пра эканамічнае і палітычнае становішча ў краіне.

Будуць дзейнічаць незалежнае ТБ і радыё. Пакуль што за межамі краіны, але яны будуць рабіцца беларусамі, гаварыць пра беларусаў і вяшчаць на Беларусь. Мы дапаможам недзяржаўнай прэсе, якая, насуперак рэпрэсіям, нясе ў народ слова праўды. Максімальна падтрымаем кожную ініцыятыву выдаваць бюлетэні, улёткі, мясцовыя невялікія газэты. Мы пашырым свабодную Інтэрнэт-прастору.

**3. Свабодная адукацыя**

Нашая мэта – падрыхтаваць для краіны сучасных высокаадукаваных прафэсіяналаў. У Беларусі будуць арганізаваныя народныя універсытэты сучасных ведаў. Мы дадзім тысячам беларусаў магчымасць вучыцца ў найлепшых універсітэтах Еўропы, праходзіць стажы ў найлепшых еўрапэйскіх арганізацыях і прадпрыемствах. У новай Беларусі, накіраванай на адкрытасць межаў, на развіццё і пэрспэктыву, на годнае месца сярод цывілізаваных краін, будуць абавязкова запатрабаваныя маладыя людзі з сусветным узроўнем адукацыі ды салідным практыкай, не сапсаваныя фальшывай ідэалогіяй. Гэта будучыня нашай краіны.

* * *

Акрамя таго, дэмакратычныя сілы краіны бяруць на сябе абавязак, каб кожны пацярпелы ад рэпрэсіяў – выключаны з універсытэта, які страціў працу, аштрафаваны, асуджаны – абавязкова атрымаў дапамогу, магчымасць вучыцца, зарабляць на жыццё. Без салідарнасці няма свабоды!

*Веру ў Вас, мае сябры і прыхільнікі!*

*Веру ў будучыню нашага агульнага руху за свабоду, праўду і справядлівасць!*

*Разам мы зробім велізарную працу, мы абавязаныя яе зрабіць!*

*Неўзабаве адважных людзей на пляцах будуць не дзесяткі, а сотні тысяч.*

*Не бойцеся!*

*Будзем разам – і мы пераможам.*

**Аляксандр Мілінкевіч**

*У студзені-сакавіку 2006 года ўладамі, за актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі на баку апазіцыйных кандыдатаў, пакарана ў рознай форме больш за тысячу чалавек. Людзей штрафавалі за распаўсюд агітацыйных матэрыялаў, саджалі на "суткі" за ўдзел у масавых акцыях, выганялі з працы і вучобы за арганізацыю сустрэчаў з кандыдатамі ў прэзідэнты. Штаб Аляксандра Мілінкевіча бярэ на сябе абавязак аказаць усемагчымую дапамогу пацярпелым ад рэпрэсій у часе выбарчай кампаніі. Усім, хто ў студзені-сакавіку 2006 года быў рэпрэсаваны, неабходна запоўніць анкету і даслаць на ўказаны адрас:zarm@tut.by*

**Анкета:**

**1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.**

**2. Дата нараджэння.**

**3. Паштовы адрас.**

**4. Тэлефон, факс, электронны адрас.**

**5. Форма рэпрэсіі** (штраф, арышт, звальненне з працы ці вучобы, узбуджэнне крымінальнай справы і г.д.).

**6. За што фактычна рэпрэсаваны** (збор подпісаў, вылучэнне ў склад камісіі, распаўсюд агітацыйных матэрыялаў, удзел у пікетах, сходах і мітынгах, удзел у назіранні і г.д.).

**7. Афіцыйная фармулёўка правапарушэння** (хуліганства, удзел у несанкцыянаваным мітынгу, прагул і г.д..

**8.Спецыяльнасць.**

**9. Якой замежнай мовай валодаеце.**

*Штаб Аляксандра Мілінкевіча гарантуе, што ўсіх, хто страціў працу ці вучобу за ўдзел у палітычнай дзейнасці, мы ўладкуем на адпаведную працу ці вучобу ў Беларусі ці за яе межамі. У той жа час мы папярэджваем, што не займаемся пытаннямі эміграцыі і атрыманнем статусу палітычнага ўцекача.*

## *Чарнобыльскі шлях пройдзе пад дэвізам "Свабода. Праўда. Справядлівасць"*

Радыё Свабода

Апазіцыя збіраецца правесці Чарнобыльскі шлях-2006 у Мінску пад лозунгам "Свабода. Праўда. Справядлівасць". Намеснік старшыні Партыі БНФ Віктар Івашкевіч падаў у Мінскі гарвыканкам заяўку на правядзенне Чарнобыльскага шляху, у якой просіць гарадскія ўлады дазволіць 1000 чалавек сабрацца на Кастрычніцкай плошчы 26 красавіка а 18-й гадзіне, прайсці па праспекце Незалежнасці (Скарыны) да Акадэміі навук, дзе маркуецца правесці мітынг.

Віктар Івашкевіч разлічвае, што адказ на ягоную заяўку мінскія ўлады дадуць да 21 красавіка. Ён мяркуе, што сама акцыя будзе мець і эканамічны, і палітычны характар, бо аварыя на ЧАЭС была не толькі тэхнагеннай катастрофай, але і палітычнай праблемай, якую стварыў савецкі рэжым, што доўгі час хаваў наступствы Чарнобылю.

(Івашкевіч: ) "І на сённяшні дзень рэжым усё хавае ад народу — і эканамічныя паказчыкі, і дэмаграфічныя, і медычныя. Ідзе толькі прапаганда шчаслівага жыцця, што непазбежна ствараe праблемы. І рэалізацыя лозунгу "Свабода. Праўда. Справядлівасць", які быў агучаны падчас выбарчай кампаніі, якраз дае магчымасць зняць гэтую заслону сакрэтнасці з тым, каб народ сапраўды ведаў, што робіцца, каб ён мог уплываць на прыняцце рашэнняў улады".

Лідэр аб'яднанай апазіцыі Аляксандар Мілінкевіч зазначыў, што Чарнобыльскі шлях-2006 не звязаны наўпрост з мінулымі выбарамі, але будзе мець і палітычнае адценне, бо зноў прагучыць ацэнка прэзідэнцкіх выбараў і патрабаванне вызваліць усіх палітвязняў.

(Мілінкевіч: ) "Той эфект, якога я чакаю, — гэта дэманстрацыя самім сабе, у першую чаргу беларускім грамадзянам, што тых людзей, якім неабыякава, якія ў стане за сваю годнасць пастаяць, у нас болей, болей і болей. Я ў гэта веру".

У БСДП "Грамада" раней зазначалі, што будуць ствараць свой аргкамітэт для правядзення Чарнобыльскага шляху. Але цяпер намеснік старшыні "Грамады" Уладзімер Нісцюк зазначыў, што ягоная партыя, хутчэй за ўсё, далучыцца да агульнай акцыі.

*Працяг. Пачатак на стар.3*

## *Ці быў Чарнобыль?*

...за 2004 -2005 г.г. год у выніку даследванняў прадуктаў харчавання на ўтрыманне радыеактыўных рэчаў, зарэгістраваны павышаны ўзровень цэзія і стронцыя ў малацэ як з прыватных гаспадарак, так і дзяржаўных. СІЧ-даследванні насельніцтва Нараўлянскага раена, праведзеныя ў сакавіку бягучага года Рэспубліканскім навукова- даследчым прадпрыемствам "Інстытут радыялогіі" дазволілі выявіць 18 чалавек з дозай, якая перавышае 1 мЗв/год. Максімальнае значэнне дозы ўнутранага апрамянення зафіксавана у в.Кіраў і складае 6,3 мЗв/год. Вынікі вымярэнняў сведчаць, што сярэдняя доза ўнутранага апрамянення дасягнула насельніцтва з ліку абследваных у в.Кіраў перавышае 1 мЗв/год (пры норме да 1 мЗв).

Трэба заўважыць, што узроўні радыеактыўнага забруджвання кароткажывучымі радыенуклідамі еду ў выніку чарнобыльскай аварыі былі настолькі значнымі, што вызвалае імі апрамяненне мільенаў людзей кваліфікуецца спецыялістамі як перыяд "едната ўдару". Ракавыя захворванні звычайна узнікаюць толькі праз некалькі год пасля апрамянення. Так, у Беларусі з 1990 г. пачаўся рост захворванняў на рак шчытападобнай залозы, асабліва сярод дзяцей. Калі параўноўваць з даавaрыйным перыядам, колькасць такіх выпадкаў пасля чарнобыльскай аварыі ўзрасла сярод дзяцей у 33,6 разы, сярод дарослых - прыкладна ў 7 разоў.

Сучасныя эпідэміялагічныя прагнозы сцвярджаюць, што ў выніку павялічэння колькасці захварэўшых на рак шчытападобнай залозы, агульная колькасць хворых можа дасягнуць некалькіх тысяч.

Па дадзеных раённага аддзела статыстыкі ў студзені-чэрвені 2005 года ў Хойніцкім раене зарэгістравана 135 народжаных, або 5,6 на 1000 чалавек. Памерла за гэты перыяд - 256, або 10,6 на 1000 чалавек. У параўнанні з такім жа перыядам 2004 года колькасць народжаных зменшылася на 22,9 %, колькасць памершых павялічылася на 5,8 %. Такім чынам, натуральныя страты у Хойніцкім раене склалі 121 чалавек, у Брагінскім – 168. І ўсе гэта, як сцвярджаюць вучоныя МАГАТЭ, звязана не з медычнымі паталогіямі, а нізкім узроўнем жыцця грамадства.

Цягам двух дзен пасля такіх высноў МАГАТЭ глядзела Беларускае тэлебачанне ў надзеі пачуць рэакцыю мясцовых вучоных, але дарэмна. Не гэта турбуе сення ўрад. Важней прадэманстраваць яшчэ раз фіктыўны Саюз, альбо абляпіць брудам апазіцыю. На гэта здольнасцяў хапае. Відаць, пагадзіліся з вывадамі. А можа, і праўда?

*Калі Вам цікава было прачытаць пра тыя рэаліі, якія мы тут узгадалі, і Вы хацелі б дакладна атрымаць наступны нумар рэалістычнага выдання, тэлефануйце: 6476157, э-пошта: zarm@tut.by*

**Рэдакцыя «ЗА развіццё Маладэчна»**

Издательство «Питер Ком», 196105, С.-Петербург, Благодатная ул., 67
Заказ № 0330 Тираж 299экз. Подписано в печать: 20.04.2006